# ПАГОНЯ

Чацвер
27 студзеня 2000 г.
№ 4 (450)
Кошт 70 рублёў


## Дастойных выявіць КГБ

**Гарадзенскі універсітэт рыхтуецца адзначыць сваё 60-годдзе.**

З гэтай нагоды вялікая група выкладчыкаў і супрацоўнікаў атрымае розныя ўзнагароды ад Міністэрства, аблвыканкама, рэктарата і г.д. З надзейных крыніцаў стала вядома, што загадзя падрыхтаваны спіс кандыдатураў на ўзнагароды маральнага і матэрыяльнага кшталту ўжо не адзін месяц правяраецца органамі дзяржкантролю і КГБ, а кіраўнікі структурных падраздзяленняў універсітэта вымушаны даваць «спецыялістам у штацкім» інфармацыю пра сваіх падначаленых.

Напярэдадні самога святкавання ўзмоцненая праверка пайшла па другому кругу. Зразумела, у спіс не павінны трапіць нелаяльныя рэжыму людзі.

Ул. інф.

## $ 21 мільён на хлеб

**Савет Міністраў і Нацыянальны банк Беларусі прынялі рашэнне аб вызваленні «ў выглядзе выключэння» шэрагу суб'ектаў гаспадарання Гарадзенскай вобласці ад абавязковага продажу валюты на агульную суму 21 мільён 400 тысяч даляраў ЗША.**

У спіс вызваленых ад абавязковага продажу ўвайшлі больш за 20 прадпрыемстваў. Гэта, у прыватнасці, ААТ «Гроднахлебапрадукт», «Лідахлебапрадукт», «Слонімскі камбікормавы завод», «Смаргонскі камбікормавы завод», «Ашмянскі камбікормавы завод», Гарадзенскі, Слонімскі, Ваўкавыскі, Лідскі, Ашмянскі мясакамбінаты, ЗАТ «Гродна-Аграэнергасэрвіс» ды іншыя.

Вызваленыя ад абавязковага продажу валютныя сродкі павінны быць накіраваны на аплату збожжа, якое пастаўляецца ў рэспубліку на падставе дагавора ад 8 снежня 1999 года, заключанага адкрытым акцыянерным таварыствам «Гроднахлебапрадукт» з кампаніяй «Карлінгтан сэйлз компані» (Канада).

Аляксей Арэшка

## Перавозчыкаў стала зашмат?

**Права на перавозку пасажыраў маршрутнымі таксі ў Гродне будзе вызначана праз конкурс.**

Гарадзенскі гарвыканкам зацвердзіў палажэнне аб парадку рэалізацыі ўнутрыгарадскіх пасажырскіх перавозак маршрутнымі таксі і аб конкурсе па прадастаўленні права на іх ажыццяўленне. Цяпер вызначаныя найбольш значныя для пасажыраў горада маршруты, што будуць прадстаўленыя на конкурс.

Правядзенне конкурсу выклікана ўзрастаючай колькасцю кіроўцаў прыватных аўтамабіляў займацца такімі перавозкамі. Цяпер на 14 гарадскіх маршрутах працуюць і 3 прыватныя аўтобусы і мікрааўтобусы. Галоўнымі крытэрыямі пры вызначэнні пераможцаў конкурсу будуць тэхнічны стан транспартнага сродку і кваліфікацыі перавозчыка.

Мясцовыя ўлады лічаць, што гэта робіцца як у інтарэсах пасажыраў, гэтак і саміх перавозчыкаў і створыць роўныя ўмовы для вядзення сумленнай, канкурэнтнай барацьбы на транспартным рынку горада, а таксама дазволіць павысіць бяспеку руху і якасць транспартных паслуг.

Ася Куніцкая




**28 і 29 студзеня** - часовыя ападкі, у асноўным снег. Месцамі - завея, туман, галалёд. Вецер заходні, парывісты. Тэмпература паветра 28 студзеня -1...-6, 29 студзеня уначы -5...-10, удзень -3...+2.

# Апазіцыя сустрэнецца з «вертыкаллю»



Спадар Рывальe заклікае гарадзенскую апазіцыю да дыялогу з вертыкаллю
Фота ГАГА «Ратуша»

**18-19 лютага ў Гродне плануецца правядзенне семінару на тэму «Мясцовае кіраванне, рэгіянальнае эканамічнае развіццё, вяршэнства Закона». Удзел у мерапрыемстве павінны прыняць кіраўнікі апазіцыйных палітычных партый і грамадскіх рухаў, а таксама прадстаўнікі выканаўчай улады вобласці.**

Пра гэта лідарам гарадзенскіх грамадскіх арганізацый на сустрэчы, праведзенай аб'яднаннем «Ратуша», паведаміў саветнік групы АБСЕ ў Беларусі Мішэль Рывальe. Абмен думкамі адбыўся ў памяшканні грамадскага аб'яднання «Ратуша». Падобныя семінары мелі месца ў Менску, Віцебску, Магілёве і Брэсце. Днямі такое мерапрыемства пройдзе ў Гомелі.

Госць паведаміў прысутным пра сваю сустрэчу з намеснікам старшыні аблвыканкама Міхаілам Бяляевым. Атрымана папярэдняя згода на ўдзел «вертыкалі» ў семінары. Узгадняецца месца правядзення семінару. Адказваючы на пытанне, Мішэль Рывальe удакладніў, што праграма ўхвалена Міністэрствам замежных справаў Беларусі, таму ніякіх праблемаў з правядзеннем планаванага двухдзённага семінару не павінна быць.

Семінар будзе мець наступную структуру. Дакладчыкі ад апазіцыйных партый і рухаў зробяць 15-20-хвілінныя даклады на тэмы мясцовага самакіравання, сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёну, вяршэнства Закона. Свой пункт гледжання на гэтыя праблемы выкажуць і выступоўцы ад дзяржаўных органаў улады. Затым слова возьмуць эксперты. Чакаецца прыезд у Гродна трох прадстаўнікоў Савета Еўропы - мэраў гарадоў з Літвы, Чэхіі, Францыі, а таксама сябра Еўрапарламента з Германіі. Будуць запрошаныя таксама прадстаўнікі пракуратуры, Вярхоўнага Суда Беларусі, калегіі адвакатаў рэспублікі. Вядзенне семінару бярэ на сябе старшыня групы АБСЕ ў Беларусі Ханс-Георг Вік. Яму будзе дапамагаць Мішэль Рывальe.

Адбыўся шырокі абмен думкамі. У прыватнасці, узнімалася пытанне наконт магчымага ўдзелу апазіцыйных партый і рухаў у маючых адбыцца выбарах у беларускі парламент у якасці кандыдатаў у дэпутаты ці назіральнікаў, доступу апазіцыі да дзяржаўных СМІ, узаемаадносінаў мясцовай «вертыкалі» і недзяржаўных грамадскіх аб'яднанняў. Абмяркоўваліся вынікі выбараў у расейскую Думу, узнімалася праблема далейшай інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі. Былі таксама каардынаты па падрыхтоўцы будучага семінару.

Сцяпан Ярашчук

# Дыпламатычны мастак

**У галерэі «У майстра» творчы дэбют - першая персанальная выстава гарадзенскага мастака Алеся Ізобава.**

Акрамя таго, гэта першая мастацкая выстава «У майстра» ў 2000 годзе.

Аляксандр Ізобаў мае мастацкую адукацыю, якую атрымаў у Віцебску і таму па звычцы прылічвае сябе да віцебскай мастацкай школы. Каля дзесяці гадоў мастак адпрацаваў выкладчыкам у гарадзенскай дзіцячай мастацкай школе. Карціны, што ўвайшлі ў экспазіцыю, аб'яднаны «падводнай тэмай» раўнавагі сусвету. Мастак па-свойму распрацоўвае тэму экалогіі і прапаноўвае свае законы суіснавання істотаў і чалавека ў прыватнасці. «Наш свет шматмерны. Я маю на ўвазе не толькі фізічна незаўважнае чацвёртае вымярэнне, але і бясконцую колькасць вымярэнняў жыцця, якія для кожнага індывіда свае. І чалавек павінен думаць аб прыродзе і вучыцца думаць вымярэннямі іншых,» - гаворыць мастак.

Цікава, як гэтая ідэя рэалізуецца ў жывапісе Алеся Ізобава. Ён распрацаваў арыгінальную тэхніку «шматузроўневага жывапісу», які стварае ілюзію аб'ёмнасці палатна. Алесь віртуозна абыходзіцца са светаценем, ад чаго па ягоных карцінах скачуць сонечныя зайчыкі, а пад яловымі лапамі збіраецца самы чорны ў свеце цень. Мастак наўмысна згушчае фарбы і пачуцці. Гледзячы на «Бярозавы гай», «Адзіноту», разумееш, што рэальна так не бывае. Але калі меней думаеш, а больш успрымаеш пачуццямі, бачыш, што ўсё магчыма, і што гульня сонечнага святла здольная і не на такія фокусы.

Дарэчы, падобна на тое, што ўвесь гэты год будзе для Алеся надзвычай шчаслівым, бо ўдалым стаўся ягоны пачатак: гэтымі днямі ў доме амбасадара ЗША Дэніэла Спекхарда пройдзе выстава Алеся Ізобава. У галерэі «У майстра» выстава прадоўжыцца да 14 лютага.

Алена Сіневіч

# Валюта толькі для сваіх?

Раніцай 25 студзеня мной была прадпрынята спроба набыць валюту ў 404 філіяле Беларусьбанка па вуліцы Ажэшкі, 42. Пэўную суму ў гэты момант купляла касір дадзенага банка. «Ужо забралі тое, што было здадзена,» - сказалі мне ў акенцы абмену валюты. Падышлі два чалавекі здаваць даляры. Не паспеў я міргнуць вокам, як за імі стала другая супрацоўніца банка, з суседняга з «валютным» акенца. На працягу нейкіх пяці хвілінаў мне стала зразумела, што ў гэтым філіяле банка валюту прадаюць толькі для сваіх. Нейкі мужчына, што «пасвіўся» ля пункта абмену валюты, відаць, зрабіў гэтае назіранне раней за мяне: «Што, даляры толькі для сваіх работнікаў?» Але і ягонае пытанне засталося без адказу.

Цікава, што думаюць на гэты конт кіраўнікі банка?

Здзіслаў Бакун

*Прысвячаю дзесятай гадавіне надання роднай мове статусу адзінадзяржаўнай*

## Казка

Я зноў успамінаю
Далёкія светлыя дні,
Бы казку чытаю,
Дзе шчасця заранкі
Ўспыхваюць яркім агнём:
Мова вяртаецца зноў
Прыгожым малюнкам са слоў...

Андрусь Заянчкоўскі

## Грыневіч у Менску

**Увечары 19 студзеня ў менскім Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адбылося адкрыццё персанальнай выставы мастака з Гродна Сяргея Грыневіча.**

Майстар прадставіў публіцы 21 твор у стылі абстракцыянізму, які выкананы на працягу апошняга года. Паводле словаў загадчыцы аддзелам выставаў музея Ларысы Дабравольскай, новыя карціны С.Грыневіча з'яўляюцца працягам раней распачатых серый, у тым ліку такіх, як «Пляцённі» і «Дзіцячыя гульні». Творчасць гарадзенскага мастака добра вядомая ў Беларусі і Заходняй Еўропе па такіх знакавых творах станковага жывапісу, як «Puzzle 130», «Жаночы торс» і «Кандэлябры».

Сяргей Грыневіч нарадзіўся ў 1960 годзе ў пасёлку Краснасельскі Гарадзенскай вобласці. Скончыў Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве, а затым — Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут па спецыяльнасці дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.

Марат Гаравы

## Шалкевіч спявае калядкі



**У пятніцу, 21 студзеня, у канцэртнай зале «Мінск», што ў сталіцы рэспублікі, адбылася прэзентацыя кампакт-дыска «Каляды-2000». Сваю творчасць паказалі групы NRM, «Крыві», гурт «Дзеці» і гарадзенец Віктар Шалкевіч. Аўтар праекту - камерцыйны буцік «Каміла». Канцэрту папярэднічала рэкламная кампанія ў праграмах Беларускага тэлебачання.**

Канцэрт доўжыўся дзве з паловай гадзіны. Прысутныя 500 чалавек шчыра віталі сваіх куміраў. Моладзь скандавала лозунгі «Жыве Беларусь!», «Радзіма, свабода...» Луналі бел-чырвона-белыя сцягі. Сярод аматараў беларускай каляднай песні быў заўважаны Надзвычайны і Паўнамоцны амбасадар Польшчы ў Беларусі Марыюш Машкевіч з жонкай.

Кампакт-дыск змяшчае 12 песень: шэсць арыгінальных і шэсць аўтарскіх. Віктар Шалкевіч, у прыватнасці, выконвае свой папулярны хіт «Святы Мікалай». Па прызнанню многіх удзельнікаў, гэты дыск стаўся сапраўдны музычнай з'явай Беларусі 1999 года, вылучаецца высокімі тэхнічнымі паказчыкамі, ідэальным гукам. Магчыма, удалы пачатак будзе мець сёлета працяг.

Сцяпан Ярашчук

# Гуляць у аб`яднанне з Пуціным небяспечна для Вашага здароўя

## Адкрыты ліст Аляксандру Лукашэнку

Паважаны Аляксандр Рыгоравіч, ці не пара заканчваць нікому не патрэбныя «гульні» ў аб'яднанне Беларусі з Расеяй? Няўжо не бачыце, куды вядзе Расею сучаснае кіраўніцтва? Не цягніце Беларусь у расейскае балота, у нас свайго хапае.

З прыходам да ўлады Пуціна Расея імгненна стала вяртацца да таталітарызму былых сталінскіх часоў. Верх зноў бяруць камуністы. Не без згоды Крамля новы парламент стаў цалкам «чырвоным». Дэмакраты выкінутыя за борт. Пуцін з камуністамі лічыў, што аб'яднаўся праз сваю «лжэдэмакратычную» партыю «Адзінства». А вось што далі камуністы народу Расеі ды Беларусі за 70 гадоў улады, мы добра памятаем. Зноў мільёны інішадумцаў ды змагароў за правы чалавека апынуцца ў турмах ды канцлагерах, пачнецца перадзел уласнасці, вяртанне зямлі ў фонд дзяржавы ды продаж прадуктаў па спісах (палку каўбасы ў адны рукі, і то толькі перад святамі). Камуністы , якімі б фарбамі іх не размалёўвалі, застаюцца тымі ж, што і ў 17-м годзе. Тады таксама абяцалі аддаць зямлю сялянам, фабрыкі - рабочым. А што атрымалася на самой справе - мы таксама памятаем.

З Пуціным «гуляць» у аб'яднанне вельмі і вельмі небяспечна. Ён не Ельцын, які мог пажартаваць і па плячы вас пахлопаць, кажучы пры гэтым «мой друг». І не рабіў паспешлівых заходаў, усё ўзважваў, усё абдумваў. З Ельцыным можна было марыць па саюз дзвюх незалежных дзяржаваў. Пуцін жа пра стварэнне саюзнай дзяржавы нават і гаворкі не вядзе, а бачыць Беларусь толькі як адзін з рэгіёнаў Расеі. Гэтую думку ён выказаў на Савеце федэрацыі падчас ратыфікацыі дамовы аб аб'яднанні Беларусі і Расеі, напрыканцы снежня мінулага года. Вось ягоныя словы: «...вхождение Белоруссии в состав России не ухудшит положения ни одному из регионов Российской Федерации». Гэта азначае, што Беларусь у складзе Расеі атрымае тыя ж правы, што сёння маюць Татарстан, Інгушэція, Калмыкія ды і тая ж Чачня. І ні адна міжнародная арганізацыя нам не дапаможа, таму што быццам бы мы самі добраахвотна адмовіліся ад сваёй незалежнасці. Спасылаючыся на Вашыя заявы і дамовы расейцам няцяжка будзе сфабрыкаваць «Договор добровольного вхождения Белоруссии в состав России на правах субъекта РФ». Паверце, другога варыянту ў Пуціна не існуе таму, што калі даць Беларусі больш правоў, чым расейскім суб'ектам, то тыя ж праў запатрабуюць і яны. А гэта будзе азначаць правал Расейскай Федэрацыі.

Народ Беларусі не жадае такога жыцця, як у расейскіх губернях, пра што сведчаць афіцыйныя дадзеныя апытання грамадзянаў Беларусі па гэтаму пытанню, якія былі прыведзены на Беларускім тэлебачанні 22 студзеня бягучага года (праграма «Навіны» ў 21.00). Паводле гэтага афіцыйнага апытання, толькі 0,7 працэнта жадалі б жыць так, як жывуць сёння расіяне.

Так што не спасылайцеся больш на «пожелания трудящихся Белоруссии» ды на рэферэндум 1996 года. На гэтым рэферэндуме стаяла зусім іншае пытанне, гаворкі пра аб'яднанне і тым больш пра ўваходжанне Беларусі ў склад Расеі не вялося. Пытанне стаяла аб эканамічным збліжэнні дзвюх суверэнных дзяржаваў. А гэта азначала развіццё свабоднага гандлю, спрашчэнне парадку перасячэння дзяржаўнай мяжы і г.д. Людзі памятаюць, за што галасавалі. Абмеркаванне дамовы ў калектывах - таксама не што іншае, як падман, таму што гаварылі «зверху» - пісалі «ўнізе». А там, дзе праходзіла справядлівае абмеркаванне - большасць была супраць аб'яднання. Людзям патрэбны не палітычныя гульні, а нармальнае чалавечае жыццё.

Ды і што далі народу падпісаныя Вамі раней дамовы? Хаця б дамова аб роўных правах грамадзянаў Беларусі і Расеі, а таксама суб'ектаў гаспадарання. Нагогул нічога. Як прадавалі расейцы нафту і газ у два разы даражэй, чым у сябе, так і прадаюць. Розніца толькі ў тым, што пасля падпісання вышэйназванай дамовы і па дарагіх коштах грамадзяне Беларусі не могуць свабодна ні бензіну купіць за нашы беларускія грошы, ні заправіць аўтамабіль газам. У некалькі разоў выраслі і кошты на энерганосьбіты. Затое расіяне вельмі актыўна ўспрынялі не столькі ідэю роўных правоў, колькі замілгела магчымасць хоць нешта ўрваць ад беларусаў.

На пачатку снежня мінулага года, перад падпісаннем дамовы накконт аб'яднання Беларусі з Расеяй, жыхары Масквы вялікім натоўпам выступалі на вуліцах з патрабаваннямі больш хуткага аб'яднання. Аднак іх вабіла не вялікая дружба з беларускім народам, а штосьці іншае. На плакатах, якія яны неслі, значылася: «Дайте быстрее нам дешёвые белорусские товары». Паўстае пытанне: чаму расіянам трапляюць «дешёвые белорусские товары», а ў нас усё штодня даражэе. Шматлікім сем'ям заробку хапае толькі на ежу, не кажучы ўжо пра пенсіянераў.

Не здзейснілася мара беларусаў выкарыстаць права быць абранымі ў заканадаўчыя і выканаўчыя органы. Ніводны беларус не патрапіў у расейскі парламент на снежаньскіх выбарах мінулага года. Нават перад Вамі і тое зачынілі праход да расейскага прэзідэнцкага крэсла, знайшлі свайго выбранніка, хіба што Пуціна. Тое ж самае будзе з нашымі юнакамі ды дзяўчатамі, якія паспрабуюць паступаць у расейскія навучальныя ўстановы. Вось толькі нашым вайскоўцам хіба што давядзецца бліжэй пазнаёміцца з Паўночным Каўказам. Калі расіяне раскатаваруюць вайсковыя часці ў Чачні на сталай аснове, як гэта зазначыў па тэлебачанні Пуцін увечары 23 студзеня бягучага года, тады хапянем гора. Пасля прыняцця адзінага бюджэту насельніцтва Беларусі адчуе на сваіх плячах і шматмільённыя расейскія даўгі - нібыта сваіх не хапае. Не меншыя выпрабаванні чакаюць жыхароў нашай краіны і пасля маючага адбыцца аб'яднання грашовай сістэмы - друкаваць грошы будуць расіяне. Вось тады і беларусы не будуць атрымліваць заробныя платы ды пенсіі гадамі.

Пуцін не дасць Беларусі больш грошай, чым сваім рэгіёнам: «Дабы не ухудшить положения ни одного из регионов России». У той час як у нас і без таго цяжкае становішча. Заробкі мізэрныя, цэны на ўсё растуць, грошы нашыя паводле даляра штодня страчваюць вартасць. Прадпрыемствы стогнуць пад цяжарам шматлікіх падаткаў, уводзяцца ўсё новыя спосабы іх налічэння. Дзяржава выкарыстоўвае любыя спосабы, абы толькі болей грошай забраць у «дзіравы» бюджэт.

Сёння Беларусь ламае галаву, як пракарміць жывёліну да вясны, не хапае кармоў. Ды і з хлебам для насельніцтва можа стацца тое ж самае. Ужо сёння ўсё часцей знікае белы хлеб з паліцаў магазінаў. А вось маленькая Латвія накарміла і насельніцтва, і жывёлу ды яшчэ прапануе на продаж больш за паўмільёна тон зерня.

Тая ж Чэхія прадае Беларусі зерне нават у пазыку. Польшча завaліла Еўропу танным мясам ды бульбай. А ў нас кілаграм нармальнага мяса роўны мінімальнай заробнай плаце за месяц. Дык яны ж ні з кім не аб'ядноўваюцца, а займаюцца ўласнай эканомікай: самі будуюць жыллё і ў іх нядрэнна гэта атрымліваецца. А вы цягнеце нас у Расею, якая хоць і вялікая, але нават бяднейшая за Беларусь. Днямі Пуцін афіцыйна заявіў па тэлебачанні, што Расея займае па эканоміцы ў свеце ажно 71-е месца. У той час як Беларусь усё-ткі на сямідзесятым месцы. Дык што мы выгадаем ад аб'яднання? Хіба што нічога. А вось прапагандаваць ужо пачалі. Палякі з першага лютага бягучага года амаль напалову скарацілі беларускім транзітныя рэйсы праз Польшчу. А гэта - чарговы ўдар па нашай эканоміцы за кошт скарачэння экспарту ды імпарту на Захад, адкуль ідзе валюта, якой нам так не стае. Балгары беларусам, нароўні з расіянамі, ускладнілі ўезд у Балгарыю. Гэта азначае, што і гандляваць на роўных з Захадам мы не можам. Маючы на сваёй тэрыторыі нафтаправод ды два газаправоды, нам няма чаго баяцца, што Расея не дасць нам энэрганосьбітаў. Мы іх самі можам узяць, як гэта робяць украінцы.

Наадварот, замест таго, каб падвышаць цэны на прадукты харчавання для свайго народа, ці не лепей было б патрабаваць ад Расеі больш высокую плату за транзіты праз Беларусь на Захад нафты, газу, а таксама паветранага, чыгуначнага ці аўтамабільнага транспарта. Гэтага амаль хопіць не толькі разлічыцца з расейскімі пазыкамі, але і падтрымаць сваё насельніцтва. Усё гэта людзі бачаць, пакуль што цярпяць, але і паціху зайздросцяць суседзям. Ніхто з іх не адмаўляецца ад самастойнасці, на кланяецца расіянам у ногі, і іх прымаюць у Крамлі з няменшай павагай.

Рэйтынгі прэзідэнтаў такіх краінаў растуць, а гэта азначае, што народу жывецца лепей. Прыклад таму Таджыкістан, дзе прэзідэнта выбралі пажыццёва; Азербайджан, Казахстан, Узбекістан ды і тая ж Украіна, дзе на перавыбарах за свайго прэзідэнта ў многіх абласцях прагаласавала больш за 90 працэнтаў выбаршчыкаў, хаця жыццё там нялёгкае, але ён Крамлю ў ногі не падае, а стараецца сам выправіць становішча разам са сваім народам. Там зразумелі, што можа даць ім Расея, і на абяцанні не паддаюцца.

Што б сёння Пуцін не абяцаў, але як толькі Беларусь аб'яднаецца з Расеяй, дык стане звычайным расейскім рэгіёнам, а Вы ў лепшым выпадку - губернатарам.

«Шчырасць» Пуціна ўжо паказала сябе, ён жа асабіста абяцаў сваёй гарачай прыхільніцы Л.Слiска аказаць ёй падтрымку пры выбарах на пост спікера парламента. А як да справы дайшло, то яе кандыдатуры партыя Пуціна не вылучыла. Канешне, не без ягонай згоды. Не верце абяцанням, бо ашукаюць.

І без таго сёння народ Беларусі пачынае задумвацца - куды ідзем? Губляецца давер да прэзідэнта. Прыклад таму - апошняе апытанне насельніцтва афіцыйнымі дзяржаўнымі структурамі, вынікі якога былі пададзеныя па БТ у сярэдзіне студзеня. Дык вось на пытанне: «каго вы б хацелі бачыць прэзідэнтам, калі б выбары адбыліся зараз» за Вас станоўча адказала толькі 45 працэнтаў апытаных. Гэта ўжо не 83 працэнты, якія былі ў 1994 годзе. Паважаны Аляксандр Рыгоравіч, падумайце над гэтым і не губляйце апошніх прыхільнікаў, звярніце ўвагу на народ не на словах, а на справе.

**Зыгфрыд Кузьма,**
**ветэран працы**

# «Вясну-2000» пачне «Акцыя любові»

**Малады Фронт правёў 23 студзеня паседжаньне Цэнтральнай Рады. Дэлегаты зь Менску й рэгіёнаў абмеркавалі некалькі важных праблемаў, сярод якіх - стратэгія й тактыка дзеяньняў Маладога Фронту ў 2000 годзе і пытаньне рэгістрацыі арганізацыі ў Мінюсьце. Наконт апошняга сябры Цэнтральнай Рады вырашылі пакінуць пакуль у моцы фармулёўку, прынятую ў лістападзе 1999 году: рыхтаваць дакументы да магчымай рэгістрацыі. Але прынцыповага рашэньня пра рэгістрацыю МФ прынята пакуль не было - пытаньне вырашана на пэўны час адкласьці.**

Беларускую «Вясну-2000» пачне меняйта моладзь. Цэнтральная Рада Маладога Фронту вырашыла правесьці 14 лютага, у дзень сьв. Валянціна, моладзевую акцыю.

Правядзеньне Маладым Фронтам акцыяў у Дзень усіх закаханых стала ўжо традыцыяй. Сёлетняе сьвяткаваньне будзе мець назоў «Акцыя любові». Пачнецца дзень з таго, што рэпрэзэнтанты Маладога Фронту будуць разносіць у амбасады дэмакратычных краінаў паштоўкі са словамі любові. Акцыя сапраўды мусіць стаць сьвяточнаю - са сьцягамі эўрапейскіх краінаў, званочкамі, ліхтарыкамі, атрыбутамі карнавалу. Арганізацыйны камітэт рыхтуе таксама некалькі добрых сюрпрызаў. Мяркуецца, што вечарам 14 лютага, у розных гарадах Беларусі, у адзін і той жа час маладыя людзі з запаленымі сьвечкамі ў руках станець у фігуры ў форме сэрцаў.

**Ул. інф.**

# Шарэцкі наведаў Варшаву

**21 студзеня Варшаву наведаў старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі. Гэтым разам усё было больш сціпла, чым у мінулы прыезд спадара Шарэцкага ў Варшаву, калі яго нават ахоўвалі супрацоўнікі UOP (Міністэрства Аховы Дзяржавы).**

У першай палове дня Сямён Шарэцкі спаткаўся з Зянонам Пазьняком. А пасля размовы спадар Шарэцкі сказаў толькі, што размаўлялі пра сітуацыю на Беларусі, вызначыліся, што належыць зрабіць, каб вярнуць Беларусь у Еўропу, каб адхіліць існуючы рэжым.

Увечары таго ж дня ў Казіміраўскім Палацы (Варшаўскі Універсітэт) адбылася сустрэча спадара Шарэцкага з беларусамі Польшчы. На ёй усе прысутныя маглі задаць пытанні прэзідэнту Беларусі, якім пасля 21 ліпеня мінулага года на падставе артыкулу 105 Канстытуцыі РБ і з'яўляецца Сямён Шарэцкі.

Спектр пытанняў, зададзеных спадару Шарэцкаму, быў вельмі разнастайным. Былі пытанні наконт таго, чаму беларусы на пачатку 20-х гадоў не пайшлі за маршалкам Пілсудскім. Шарэцкі адказаў, што беларусы ніякай прапановы ад Пілсудскага не атрымалі, таму і не пайшлі. Хтосьці запытаўся пра ўдзел апазіцыі ў маючых адбыцца выбарах. Адказ Сямёна Шарэцкага быў рэзкім і кароткім: толькі пасля зняцця рэжыму магчыма правядзенне сапраўдных дэмакратычных выбараў. Вельмі цікавіла прысутных пытанне аднесна бяспекі прэзідэнта Беларусі. На гэта С.Шарэцкі паведаміў, што яму былі дакладна вядомыя не толькі гадзіны, але і хвіліны, калі ён павінен быў быць затрыманы, таму і было прынята рашэнне пакінуць Беларусь.

Пасля паўтарагадзіннай сустрэчы спадар Шарэцкі сеў у машыну, **якая чакала яго, і ад'ехаў у** Вільню. А нехта з удзельнікаў сустрэчы прамовіў: «Хацелася пачуць хоць нешта канкрэтнае, на жаль, я не даведаўся нічога новага. Спадзяваўся на большае».

**Ігар Банцар**

# Заява Гарадзенскай філіі БСДГ

## да дзесятых угодкаў з часу прыняцьця закону пра дзяржаўнасьць беларускай мовы

26 студзеня 1990 году Вярхоўны Савет БССР 11-га скліканьня прыняў закон пра наданьне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай на тэрыторыі Беларусі. Пайсьці на гэты крок дэпутатаў камуністычнага парляманту змусілі абставіны, якія тады склаліся ў краіне - дэмакратызацыя, рост нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў. Выкананьне згаданага закону расьцягвалася на гады. Але ён ёсьць, і яго ніхто не адмяняў. Аднак, антызаконныя дзеяньні дзяржаўных чыноўнікаў, якія нахабна байкатавалі выкананьне закону (асабліва пасля псэўдарэфэрэндуму 1995 году) прывялі да катастрафічнага стану беларускамоўнага школьніцтва, вышэйшай адукацыі.

Беларуская мова выціснута зь дзяржаўных установаў. Беларусы на сваёй Радзіме апынуліся ў становішчы нацыянальнай меньшасьці. Улады ігнаруюць нават сваё рашэньні пра так званую «роўнасьць» моваў. Так, на зваротных заявы грамадзкіх і палітычных арганізацыяў, пададзеныя ў гарадзенскія гарадзкі й абласны выканаўчыя камітэты, адказы даюцца па-расейску. Амаль усе новыя шыльды на ўстановах горада Гродна напісаны па-расейску. З асаблівым цынізмам зьнішчаюцца беларускамоўныя клясы. У лепшым выпадку на роднай мове маленькія беларусы могуць атрымаць толькі пачатковую адукацыю. Далей, як правіла, адміністрацыяй школаў усё робіцца для таго, каб навучаньне ў сярэдняй школе было расейскамоўным.

Чыноўнікі сьцьвярджаюць, што гэта ўсё робіцца па жаданьні самых беларусаў, якія «предпочитают русский язык». Але вынікі апошняга перапісу насельніцтва даказваюць адваротнае. Так 72,6% насельніцтва Гарадзеншчыны назвалі сваёй роднай мовай беларускую, а 53,6% сьцьвердзілі, што зьяўляюцца беларускамоўнымі.

Узьнікае пытаньне: чаму большасьць павінна падпарадкоўвацца меньшасьці? Ці не таму, што гэтя чужынская меньшасьць займае амаль ўсе кіруючыя пасады ў вобласьці?

Мы зьвяртаемся да ўсіх жыхароў Гарадзеншчыны, якіх не задавальняе такі стан. Давайце разам бараніць свае нацыянальныя й чалавечыя правы. Супольна мы можам зьмяніць ганебнае становішча, якое склалася ў краіне. Годзе казаць, што нас адзінкі. Толькі ў Прынямоньні нас амаль мільён. Гэта больш, чым налічваюць некаторыя народы. Гарадзенская філія БСДГ прапануе стварaць ў гарадах, мястэчках, вёсках суполкі ў абарону роднай мовы. Аб'ядноўвайцеся па месцы жыхарства, па арганізацыйную дапамогу зьвяртайцеся ў мясцовыя суполкі БСДГ альбо Таварыства Беларускай Мовы. Калі ў вашым мястэчку, ці вёсцы няма гэтых арганізацыяў, зьвяртайцеся кожны аўторак з 18 да 19 гадзінаў у Гродна на нумар тэлефону 72-35-61.

Пра ўсе выпадкі, зьвязаныя з парушэньнем правоў карыстаньня беларускай мовай просім паведамляць на адрас: 230023 г.Гродна а/с N121 альбо па тэлефоне, пададзенаму вышэй.

**25 студзеня 2000 году**

# Індустрыя моды: гарадзенскі варыянт

**На рэгіянальным туры конкурса моды і фота «Супермадэль Беларусі - 2000» усе ўзнагароды атрымалі гарадзенскія куцюр'е.**

Паказ калекцыі адзення прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання Гарадзенскай вобласці прайшоў 24 студзеня ў Драмтэатры. Удзел прынялі майстры адзення з 11 раёнщых цэнтраў і тры прадпрыемствы з Гродна - «Вясёлка», «Сілуэт» і «Абутак».

Мастацкі кіраўнік і вядучы конкурсу Алесь Варламаў мэтанакіравана называў работніц раённых камбінатаў бытавога абслугоўвання «Стваральнікамі моды, стылю, густу, гарадзенскімі куцюр'е». Хоць «куцюр'е» са Смаргоні, Воранава, Мастоў ды іншых гарадоў, напэўна, першы раз у жыцці выступалі ў такой прыемнай ролі - прадстаўлялі свае калекцыі на сцэне і ў літаральным сэнсе слова ўцякалі з імправізаванага подыуму і ад Варламава.

Самымі папулярнымі тэмамі паказу былі «Камфорт» і «Кар'ера». Ільвіную долю займалі трыкатажныя касцюмы ў бляклых шэрых, бежавых, зеленаватых колерах. Улюбёныя фасоны мадэльераў Гарадзеншчыны - прамыя спадніцы рознай даўжыні, безрукаўкі, кардыганы, кофты. Для мужчын Алена Танянка з Навагрудка прапанавала калекцыю кашуляў. Святлана Беліда з Мастоў паказала элегантныя касцюмы з моднымі капшукамі.

Адкрыццём конкурсу можна назваць маладога дызайнера з гарадзенскага прадпрыемства «Абутак» Вольгу Гайлаву. Яна стварыла шыкоўную калекцыю адзення са скуры. З гэтага шляхетнага матэрыялу было пашыта ўсё - штаны, кашулі, паліто, плашчы, пінжакі, станікі. Калекцыя з рознакаляровай скуры была напраўду самай яркай і эратычнай.

Новым была і калекцыя мужчынскага трыкатажу "Кар'ера на колах" дызайнера з «Вясёлкі» Веры Цыдзік. Яна прапанавала мужчынам смялей апранаць светлыя, малочна-белыя трыкатажныя гарнітуры не толькі замест хатніх «трэнікаў», але і на працу, у горад.

Ад гарадзенскага «Сілуэта» ў конкурсе ўдзельнічалі мадэльеры Вольга Пянькова і Святлана Міхайлоўская. Калекцыя Вольгі Пяньковай «Кар'ера коткі» паказвае строі адначасова строгія і гарэзлівыя - гарнітуры ў чорна-белых колерах.

Пяць першых прэміяў атрымалі дызайнеры з Гродна: Святлана Міхайлоўская («Сілуэт») з калекцыяй сукенак «Лінія», Вольга Пянькова («Сілуэт») за «Котак», Вера Цыдзік і Лізавета Арлова («Вясёлка») і Вольга Гайлава («Абутак») за выдатную калекцыю "Усё са скуры".

Усе пераможцы прымуць удзел у конкурсе «Супермадэль Беларусі-2000», які пройдзе ў Менску ў сакавіку. Дарэчы, за дэвіз «Супермадэлі» будзе ўзята выслоўе - «Кітайскі шык» - сусветная грамадскасць лічыць, што 2000 год пройдзе пад знакам Кітая.

**Алена Сіневіч**



**Міс Беларусі-98 Святлана Крук таксама прыняла ўдзел у паказе гарадзенскіх мадэляў**

# Махінацыяў стане меней

**Паводле Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, з першага ліпеня 2000 года ўводзіцца ліцэнзаванне і абавязковая сертыфікацыя рыэлтарскіх паслуг пры адзяйсненні здзелак з аб'ектамі нерухомай маёмасці.**

Савет Міністраў устанавіў, што пытаннямі спецыяльных дазволаў і сертыфікатаў адпаведнасці Нацыянальнай сістэмы сертыфікацыі ў галіне рыэлтарскіх паслуг будзе займацца Міністэрства па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі. Нагадаем, што на сённяшні дзень з боку дзяржавы адсутнічае нейкае ліцэнзаванне і сертыфікацыя рыэлтарскай дзейнасці. Ёсць толькі Дзяржаўны стандарт Рэспублікі Беларусь (СТБ 1098-98), і рыэлтарскімі паслугамі могуць займацца любыя юрыдычныя асобы. Аднак, у сувязі з прыняццем вышэйзгаданай Пастановы - толькі да першага ліпеня бягучага года.

На наш погляд, гэтае рашэнне ўрада Беларусі заслугоўвае ўхвалы. Справа ў тым, што зараз «роля» рынку жылля, напрыклад, павялічваецца штодня. Усё большая колькасць грамадзянаў Беларусі спрабуе змяніць свае жыллёвыя ўмовы. Адны грамадзяне гатовы іх пагоршыць з мэтаю атрымання грошай (напрыклад, на ўтрыманне сям'і). Другія жадаюць палепшыць умовы (скажам, замяніць 2-пакаёвую кватэру на 3-пакаёвую), таму назапашваюць пэўныя сродкі. У кожным з гэтых прыкладаў у людзей узнікае натуральнае жаданне даверыць вырашэнне сваёй жыллёвай праблемы рыэлтарскай фірме, якая працуе на рынку нерухомай маёмасці.

Канешне, можна і самому паспрабаваць здзейсніць усе «подзвігі» з пэўным жыллём на рынку нерухомай маёмасці. Аднак, гэта адніме ў вас масу энергіі і будзе суправаджацца вялікай колькасцю складанасцяў, якія будуць узнікаць паўсюль пры выкананні аперацыяў з нерухомай маёмасцю. Ды і «кідалам» з непрафесіяналамі падабаецца працаваць. Рыэлтарскія ж фірмы (і асабліва з першага ліпеня 2000 года) у ролі «кідалаў» наўрад ці будуць нейкім чынам прадстаўлены ў Беларусі.

Тым не менш, для самастойных «дзялкоў» са сваім жыллём ці грашыма на рынку нерухомай маёмасці нагадаем: для таго, каб прадаць кватэру, уладальнік павінен прадставіць наступныя дакументы:

- пасведчанне аб уласнасці, выдадзенае аддзелам прыватызацыі па месцы жыхарства, тэхнічны пашпарт;
- дамову перадачы ўласнасці (у выпадку дарэння, продажу, атрымання кватэры ў спадчыну);
- даведку з Бюро тэхнічнай інвентарызацыі аднosна балансавай вартасці кватэры;
- даведку аб адсутнасці запазычанасці па кватэрнай плаце і копію асабовага рахунку альбо выпіску з дамавой кнігі;
- даведку аб адсутнасці накладання арыштаў і забаронаў;
- пісьмовае запэўненне, якое пацвярджае згоду ўсіх паўналетніх членаў сям'і на продаж кватэры.

Пакупніку дастатковa мець пашпарт. Дамова куплі-продажу складаецца і рэгіструецца ў натарыуса.

І апошняе. У наступным нумары ПАГОНІ чытайце агляд рынку другаснага жылля ў Гродне. Першы ў 2000 годзе. Праанансуем наступным чынам: нават у спецыялістаў на рынку нерухомай маёмасці выклікала здзіўленне далейшае зніжэнне коштаў на кватэры з рынку другаснага жылля. І гэта ў параўнанні нават з кастрычнікам 1999 года. Так што чытайце ў наступным нумары нашай газеты артыкул: «Дзвюхпакаёвая ў 1996 годзе = трохпакаёвая ў 2000».

**Сяргей Міронаў**

# Гуляць дык гуляць!

**Такога прынцыпу прытрымліваецца цяперашняя ўлада. Толькі-толькі ў райцэнтрах былой Заходняй Беларусі скончыліся гулянні, прысвечаныя 60-годдзю ўтварэння новых адміністрацыйных адзінак, як паступіў загад рыхтавацца да новай гулянкі.**

У райцэнтрах Гарадзеншчыны ўтвараюцца аргкамітэты ды паспешна зацвярджаюцца планы падрыхтоўкі да сустрэчы трэцяга тысячагоддзя і нават двухтысячагоддзя святкавання хрысціянства. Гэтым разам да сваіх мерапрыемстваў улады далучылі царкву. Напрыклад, Мастоўскі райвыканкам паабяцаў рэлігійным абшчынам раёна аказаць садзеянне ў будаўніцтве і рамонце культавых будынкаў. Дарэчы, такія пустыя абяцанкі на Мастоўшчыненазіраліся і раней. У мінулым годзе мясцовыя ўлады паабяцалі добраўпарадкаваць тэрыторыю вакол каталіцкага касцёла, які вернікі ўласнымі сіламі і сродкамі будуюць на працягу амаль дзесяці гадоў. Толькі нічога не зроблена. Як насілі старыя кабеты насілкамі пясок год таму, так носяць і зараз.

**Язэп Палубятка**

# У Гродне ёсць і чувашы

**У Гродне створана абласная Абшчына беларускіх чувашоў. У яе ўвайшлі 17 чалавек, якія аб'ядналіся для таго, каб разам вывучаць мову, звычаі, культуру і гісторыю чувашскага народа.**

Сябры абшчыны збіраюцца стварыць банк дадзеных пра ўсіх чувашоў, што жывуць у вобласці і Беларусі, прыцягваць да культурна-асветніцкай дзейнасці мастацкія калектывы з Чувашыі, узяць удзел у III Усебеларускім фестывалі нацыянальных культур. У намерах новай арганізацыі — правядзенне, сумесна з гарвыканкамам, свята вуліцы А.Нікалаева. Вядомы лётчык-касманаўт, які зараз жыве ў Маскве, даў згоду на ўдзел у гэтым мерапрыемстве.

# Фестываль будзе летам. Аднак прыз ужо гатовы

**Аргкамітэт па правядзенні III Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур на сваім чарговым пасяджэнні, якое прайшло 20 студзеня ў Менску, вызначыў дату яго правядзення. Заключныя мерапрыемствы фестывалю пройдуць у Гродне з 2 па 4 чэрвеня.**

У ім возьмуць удзел прадстаўнікі 16 нацыянальных аб'яднанняў. Праграма фестывалю і сцэнары мерапрыемстваў яшчэ будуць удакладняцца. Але ўжо зараз можна гаварыць, што ўрачыстае яго адкрыццё адбудзецца на плошчы Савецкай. Затым пройдуць гала-канцэрт замежных артыстаў і танцавальная асамблея народаў Беларусі. У Новым Замку адбудзецца «Гарадзенскі баль». У гісторыка-археалагічным музеі плануецца адкрыць выставу гісторыі, традыцый і сучаснай культуры нацыянальнасцяў, якія жывуць у Беларусі. Праграмай фестывалю таксама прадугледжана правядзенне тэатралізаванага шэсця, канцэрта зорак эстрады.

Традыцыйна ў гістарычным цэнтры горада будуць працаваць нацыянальныя «падворкі». На заключны дзень фестывалю — 4 чэрвеня — запланаваныя свята паэзіі, кірмаш дружбы, абласны фестываль харэаграфіі, дзіцячае тэатралізаванае свята. агляд дзіцячых абрадавых праграмаў. У Лядовым палацы маркуецца правесці заключны канцэрт. А позным вечарам на Нёмане пройдзе тэатралізаванае прадстаўленне «Бывай, XX стагоддзе: нас кліча XXI стагоддзе».

Ужо распрацаваныя ўзоры рэкламнай прадукцыі фестывалю: карты мерапрыемстваў, значкі, запрашэнні, футболкі з сімволікай. А на шклозаводзе «Нёман», што ў горадзе Бярозаўка Лідскага раёна, выраблены галоўны прыз. Гэта ваза з сімвалам свята — шматколернай валошкай.

**Ася Куніцкая**

# Вінаватыя ўсе

**Два з паловаю месяцы таму на ААТ «Мастыдрэў» на лініі арыентавана-стружкавай пліты згарэў замежны станок «Пальман». Адказнасць панеслі некаторыя кіруючыя асобы прадпрыемства, але гэтага генеральнаму дырэктару аб'яднання Віктару Бураму падалося мала.**

Некалькі дзён таму ён выклікаў да сябе усіх спецыялістаў цэха, абвінаваціў іх у тым, што здарылася, і запатрабаваў, каб яны вярнулі 932 мільёны недэнамінаваных рублёў, што былі затрачаныя на рамонт. Дзеля гэтага ім было прапанавана неадкладна напісаць заявы, што яны аддаюць заводу свой месячны аклад. Заробак спецыялістаў цэха невялікі, і таму пісаць заявы яны адмовіліся. Назаўтра з заводакіравання людзям перадалі, што дырэктар пакуль сваё рашэнне адмяніў.

Якім будзе наступны крок кіраўніка прадпрыемства - застаецца толькі здагадвацца.

# Перазімуем - не перазімуем

**...гадаюць каровы ў некаторых калгасах Мастоўскага раёна. І звязана гэта з адсутнасцю кармоў. Сёлета назапашана на галаву 13,5 цэнтнера кармавых адзінак, што на 2,2 цэнтнера менш, чым у мінулым годзе.**

Нядаўна ў калгасе «Зара» дарэзалі чатырох гадавалых цялушак. Спецыялісты райаграпрамхарчу мяркуюць, што ў хуткім часе так пачнуць эканоміць кармы яшчэ ў калгасах «Чырвоны партызан» і «Чырвоная зорка». З гэтай прычыны два гады таму ў «Чырвонай зорцы» было зарэзана некалькі дзесяткаў кароў.

**М.Падгайны**

# У спадчыну ад старога года

**У 1999 годзе на тэрыторыі Ленінскага раёна горада Гродна здарылася 147 пажараў, з іх: у дзяржаўным сектары - 122, у тым ліку ў жылым сектары - 63, на аб'ектах прыватнай уласнасці - 25 выпадкаў узгаранняў.**

У выніку неасцярожнага абыходжання з агнём адбылося 86 узгаранняў, з-за дапушчаных парушэнняў правілаў пажарнай бяспекі пры правядзенні агнявых работ - 6 пажараў, у выніку свавольства дзяцей з агнём - 22. Агонь адабраў жыцці трох чалавек. Матэрыяльныя страты ад пажараў склалі 5 мільярдаў 422 мільёны рублёў. Работнікі пажарнай службы выратавалі матэрыяльных каштоўнасцяў на суму болей як 12 мільярдаў рублёў.

**С.Вішняк,**
**інспектар АВПС-1 Ленінскага раёна горада Гродна**

# Куды паедзе «Ford»?

**У пачатку сакавіка 2000 года сумеснае прадпрыемства «Форд - Юніон», магчыма, спыніць выпуск легкавых аўтамабіляў «Ford Escort» альбо наогул будзе «закансерваванае».**

Як заявіў у Кёльне (Германія) менеджэр па стратэгічнаму планаванню і праграмам Ford - Werke AG Пауль Шынафен, увесну 2000 года аўтамабільны гігант плануе прыпыніць зборку на абчакаўскім заводзе (каля Менску) аўтамабіляў «Ford» і наогул спыніць іх вытворчасць. Савет Міністраў Беларусі пра гэта праінфармаваны. «Мы заханаем гэтую пляцоўку за сабою і будзем чакаць, калі адбудуцца пэўныя змены ў эканамічным развіцці краіны. Калі эканоміка рушыць наперад, мы пачнем працаваць», - паабяцаў спадар Шынафен.

У той жа час міністр прадпрымальніцтва ды інвестыцыяў Беларусі Аляксандр Сазонаў абверг інфармацыю наконт спынення вытворчасці сумеснага прадпрыемства «Форд-Юніон». Паводле словаў міністра, «такіх планаў у кіраўніцтва не было». Магчыма, у будучым годзе прадпрыемства скароціць выпуск аўтамабіляў і павялічыць вытворчасць мікрааўтобусаў, бо яны карыстаюцца крыху большым попытам».

Адпаведна нашым звесткам, «Форд-Юніон» сапраўды перажывае цяжкія часіны (як і ўся беларуская эканоміка). Легкавыя аўтамабілі «Ford Escort» сёння практычна не прадаюцца. Крыху лепей ідуць справы з продажам «Ford Transit». «Бусікі» яшчэ карыстаюцца попытам.

Дык куды ж паедзе «Ford»? На нашу думку, пакуль сярэднестатыстычны беларус будзе адкладваць са свайго заробку па 5-10 умоўных адзінак на новую машыну абчакаўскай зборкі, «Ford» і, у прыватнасці, «Форд-Юніон» нават не скранецца з сёняшняга практычна бесперспектыўнага месца.

**Максім Жмінда**

# Курсы амаль зраўняліся

| Дата | Набыццё $ ў Гродне | Продаж $ ў Гродне | Набыццё $ ў Менску | Продаж $ ў Менску |
|---|---|---|---|---|
| 22 студзеня | 870-875 | 880-890 | 875-880 | 890-900 |
| 23 студзеня | 875-880 | 890-900 | 890-895 | 910-920 |
| 24 студзеня | 880-885 | 900 | 890-895 | 905-910 |
| 25 студзеня | 885-890 | 900 | 885-890 | 900 |
| 26 студзеня | 885-890 | 900 | 870-875 | 895-900 |

На мінулым тыдні арэлі курсаўтварэння нагадалі пра сябе ў другой палове дня 23 студзеня на «чорным» рынку. Праўда, толькі ў Менску. А ў асноўным, сітуацыя на валютным рынку была спакойная **(гл. табліцу)**.

На безнаяўным рынку курс нацыянальнай грашовай адзінкі ЗША «зраўняўся» з адзнакамі 1 030 і 1 100 рублёў.

У некаторых абменных пунктах камерцыйных банкаў краіны («абменнікі» Нацыянальнага банка не прадаюць канверсуемую валюту) распачаўся продаж даляраў ЗША. Больш верагодным з'яўляецца набыццё ў абменных пунктах расейскіх рублёў, а таксама нямецкіх марак. Іншая валюта ў Беларусі фактычна неканверсаваная. Цікава, чаму?

Курсы валют з «чорнага» рынку па даляру ЗША адрозніваюцца ад курса ў «абменніках» на 10 -25 рублёў, па нямецкай марцы - толькі на 5 - 10, а па расейскаму рублю «чорны» курс зраўняўся з курсам у абменных пунктах камерцыйных банкаў, і зараз стаў зусім «не чорным». Праўда, пакуль толькі па расейскаму рублю.

Канчатковае выроўніванне вышэйуказаных курсаў беларускага рубля ў дачыненні да свабоданканверсуемых валютаў залежыць перш за ўсе ад рэкамендацыяў Нацыянальнага банка Беларусі камерцыйным банкам. І хоць гэтыя ўказанні нерамартыўныя, іх невыкананне можа мець некаторыя (!?) негатыўныя наступствы для камерцыйных банкаў у Беларусі. Так што выконваць указанні-рэкамендацыі - значыць больш-менш бесклапотна функцыянаваць, але несці пры гэтым фінансавыя страты.

**Кацярына Зволін**

# Аўтамабільны застой працягваецца

| Марка і мадэль | Год | Растам. | Кошт |
|---|---|---|---|
| Alfa Romeo-164 | 1991 | - | 2 900 |
| Alfa Romeo-164 | 1992 | + | 3 900 |
| Audi-80 | 1981 | - | 700 |
| Audi-80 | 1989 | + | 2 800 |
| Audi-80 | 1990 | + | 3 300 |
| Audi-100 | 1984 | + | 1 500 |
| Audi-100 | 1988 | + | 2 500 |
| Audi-100 | 1989 | + | 2 500 |
| Audi-100 Av | 1989 | + | 3 000 |
| Audi-100 | 1993 | + | 7 000 |
| Audi-200 | 1984 | - | 1 000 |
| Audi-5000 | 1986 | - | 1 600 |
| Audi A6 | 1996 | + | 16 000 |
| Audi A8 | 1996 | + | 25 000 |
| BMW-520 | 1988 | - | 2 900 |
| BMW-524 | 1988 | + | 3 500 |
| BMW-525 | 1989 | + | 4 000 |
| BMW-525 | 1991 | + | 6 500 |
| BMW-730 | 1988 | + | 4 900 |
| BMW-730 | 1991 | + | 7 500 |
| BMW-730 | 1993 | + | 10 000 |
| BMW-730 | 1996 | + | 25 000 |
| BMW-735 | 1987 | - | 3 000 |
| BMW-735 | 1992 | + | 10 000 |
| BMW-740 | 1992 | + | 11 000 |
| BMW-750 | 1992 | - | 8 900 |
| Lincoln Cont. | 1994 | + | 10 000 |
| Mazda-626 | 1987 | - | 500 |
| Mazda-626 | 1987 | + | 1 800 |
| Mazda-626 | 1988 | + | 2 300 |
| Mazda-626 | 1989 | - | 1 990 |
| Mazda-626 | 1995 | - | 5 000 |
| Mazda-626 | 1996 | + | 6 000 |
| Mercedes-200 | 1983 | + | 1 600 |
| Mercedes-200 | 1984 | - | 1 200 |
| Mercedes-200 | 1989 | + | 5 500 |
| Mercedes-200 | 1992 | + | 7 000 |
| Mercedes-230 | 1991 | + | 7 500 |
| Mercedes-300 | 1990 | + | 8 000 |
| Mercedes-300 | 1992 | + | 10 000 |
| Mercedes-500S | 1995 | + | 29 000 |
| Opel Astra | 1992 | + | 2 700 |
| Opel Vectra | 1991 | + | 4 000 |
| Opel Vectra | 1992 | - | 3 500 |
| Opel Omega | 1987 | + | 1 600 |
| Opel Omega | 1988 | + | 1 900 |
| Opel Omega | 1989 | - | 1 600 |
| Opel Omega | 1993 | + | 4 900 |
| Renault-19 | 1996 | + | 5 900 |
| Volvo-440 | 1990 | - | 2 800 |
| Volvo-740 | 1985 | + | 1 900 |
| Volvo-740 | 1991 | - | 2 900 |
| Volvo-760 | 1987 | + | 2 300 |
| Volvo-760 | 1989 | + | 3 000 |
| Volvo-940 | 1993 | - | 4 900 |
| VW-Golf | 1987 | - | 500 |
| VW-Golf | 1991 | + | 2 400 |
| VW-Golf | 1992 | + | 3 500 |
| VW-Passat | 1991 | + | 2 900 |
| VW-Passat Av | 1993 | - | 3 800 |
| VW-Passat Av | 1996 | + | 5 990 |
| VW-Passat | 1996 | + | 6 000 |
| VW-Vento | 1993 | + | 4 500 |
| VW-Vento | 1994 | + | 4 900 |

Заўвага: кошты пададзеныя ва ўмоўных адзінках.

**Паводле інфармацыі фірмы «Artkas», якая спецыялізуецца на рынку аўтамабіляў, на 26 студзеня прапановы на продаж легкавых аўтамабіляў на беларускіх аўтамабільных рынках перавышалі рэальны попыт амаль у адзінаццаць разоў.**

Такі стан справаў не мог не адлюстравацца на коштах «патрыманай» аўтамабільнай прадукцыі на аўтарынках краіны. У сярэднім суадносіны цэнаў кастрычніка-1999 да цэнаў студзеня-2000 мінус 4-9 працэнтаў на ідэнтычныя маркі і мадэлі легкавых аўтамабіляў аднаго і таго ж года выпуску. Найбольш знізіліся кошты на VW-Passat, VW-Vento, Mazda-626, Opel Omega, Opel Astra і Audi-80. Крыху меншае зніжэнне цэнаў на Volvo-740, Volvo-760, BMW (5 мадэляў), Mercedes (124-кузаў), Renault-19, Audi-100 (1991-1994 гады выпуску) і Alfa Romeo-164. У параўнанні з кастрычнікам 1999 года, не змяніліся кошты на дызельныя легкавыя аўтамабілі 1982-1988 гадоў выпуску, вартасцю да 2000 умоўных адзінак, а таксама цэны на легкавыя аўтамабілі прадстаўнічага класу 1991-1997 гадоў выпуску: Mercedes S-клас, BMW - 7 мадэляў; Lexus і Jaguar, само сабой зразумела, з бензінавымі рухавікамі (іншых, фактычна, і не бывае ў машынах прадстаўнічага класа).

У цэлым, калі абагульніць сітуацыю на аўтамабільных рынках краіны на мінулым тыдні, то на продаж былі выстаўленыя ў асноўным наступныя маркі і мадэлі легкавых аўтамабіляў з адпаведнымі ім коштамі, на думку прадаўцоў **(гл. табліцу)**.

Як бачна з табліцы, большасць прадстаўленых на продаж легкавых аўтамабіляў растаможаная. Іх перавага над нерастаможанымі аўтамабілямі амаль адзін да чатырох (нават пры акругленні ў меншы бок). Фактычна тое, ці з'яўляецца аўтамабіль растаможаным, на верагоднасць продажу не ўплывае. Куды больш важныя для пакупніка - якасць прапануемай прадукцыі ды яе кошт.

Тым не менш, «узровень» растаможкі на некаторыя аўтамабілі (10-15 гадоў і больш) сёння перавышае кошт самога аўтамабіля (гл. табліцу). Ды і сама растаможка на некаторыя маркі і мадэлі аўтамабіляў проста зашкальвае на астранамічныя вышыні: на Audi A8 растаможка - 2100 у.а., BMW-730 растаможка больш за 1500 у.а., BMW-750 - 2500 у.а., Mercedes-300 - болей як 1500 умоўных адзінак, а, напрыклад, на Jaguar XJ-12 растаможка складае больш за 3000 умоўных адзінак... І сапраўды, кошт растаможкі асацыюецца(?) з сёняшнім узроўнем сярэднямесячнага заробку ў Рэспубліцы Беларусь.

Адпаведна размовам з прадаўцамі легкавых аўтамабіляў, прадаць машыну па-ранейшаму даволі цяжка. Патрэбна значна скінуць кошт альбо чакаць цуда. Іншых варыянтаў на сёння папросту няма. Аўтамабільны парк у Беларусі, у параўнанні з 1996 годам, абнаўляецца чарапашымі тэмпамі. Ды і як жа абнаўленню набраць хуткасць пры сярэднім гадавым даходзе беларуса ў 360 умоўных адзінак?

Зменаў на аўтамабільных рынках Беларусі, на наш погляд, можна чакаць са зменай агульнай эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы. Хаця спецыялісты фірмы «Artkas» спадзяюцца, што змены гэтыя крыху ў лепшы бок адбудуцца ў сувязі з падпісаннем Дамовы паміж Беларуссю і Расейскай Федэрацыяй: усё-такі Беларусь - заходні плацдарм для аўтамабіляў імпартнай вытворчасці, і перш за ўсё германскіх аўтамабіляў: Mercedes, BMW, Audi, VW і так далей.

У хуткім часе вы зможаце прачытаць у нашай газеце пра агульны стан прапановаў новых легкавых аўтамабіляў у Рэспубліцы Беларусь афіцыйнымі дылерамі буйнейшых аўтамабільных гігантаў свету.

**Кацярына Зволін**

# Прадпрымальнікі праводзяць мітынг

**31 студзеня ў Менску на плошчы Бангалор у 13 гадзін адбудзецца мітынг у абарону эканамічных ды іншых правоў грамадзянаў. Дазвол на мітынг дадзены Менскім гарвыканкамам.**

Мітынг праводзіцца па ініцыятыве прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь, Свабоднага Прафсаюза Беларускага і Беларускай Арганізацыі Працоўных Жанчын. Мітынг чакаецца надзвычай мірны. Плануецца выступленне музыкантаў. Будуць раздавацца сувеніры, ручкі, шарыкі, цукеркі, марожанае для дзяцей, білеты ў кінатэатры на дзіцячыя фільмы і г.д. Запрошаны А.Лукашэнка, Старшыня Савета Міністраў і ўвесь яго кабінет, кіраўніцтва Нацыянальнага Схода.

Дадзеным кіраўнікам, як заверылі арганізатары мітынгу, будзе прадастаўлена унікальная магчымасць расказаць паўгалодным дзецям, іх матулям, пенсіянерам, як добра яны жывуць.

**Ул. інф.**

# І Лукашэнку запрасілі...

**Адзін з актывістаў прадпрымальніцкага руху Валерый Леванеўскі днямі адправіў на адрас прэзідэнта, Савета Міністраў, Нацыянальнага Схода і міністра ўнутраных справаў тэлеграму-запрашэнне з прапановай прыняць удзел у мітынгу ў абарону эканамічных правоў грамадзянаў, які павінен адбыцца 31 студзеня на плошчы Бангалор у Менску. У тэлеграме, у прыватнасці, гаворыцца:**

«Улічваючы, што з Вашага боку, відаць, будзе шмат жадаючых выступіць, то кожнаму з выступоўцаў будзе прадастаўлена па 5 хвілінаў часу, прэзідэнту - 15 хвілінаў, Старшыні Савета Міністраў - 10 хвілінаў. Спіс можна ўзгадніць з намі (не больш за 10 чалавек).

...Мітынг мірны, баяцца Вам няма чаго. Просьба да А.Лукашэнкі - падрыхтаваць даклад аб сваіх прадвыбарчых абяцаннях 1994 года (заробак і пенсіі да 1996 года не ніжэй за сусветныя, бясплатная вышэйшая адукацыя і г.д.). Усім астатнім выступоўцам, узгаданым у тэлеграме, просьба падрыхтаваць кароткую справаздачу аб рабоце сваіх ведамстваў ды міністэрстваў за мінулыя пяць гадоў і расказаць нам пра бліжэйшыя чакаемыя дасягненні ў гэтым годзе ў галіне эканомікі, выканання сацыяльных гарантыяў, правоў чалавека і г.д.)».

У гэтай жа тэлеграме Валерый Леванеўскі асобна звярнуўся да сілавых структураў і кіраўнікоў незаконных спецыяльных фармаванняў з перакаанаўчай просьбай «зняць вонкавае назіранне з актыву, які рыхтуе дадзены мітынг, не стварыць правакацыяў, не арыштоўваць і не затрымліваць удзельнікаў мітынгу па заранеў сфабрыкаваных справах».

**Ул. інф.**

# Літр - даляр. Лёгка лічыць? Аднак цяжка ездзіць!

**Вось ужо трэці тыдзень у Беларусі ў вольным продажу нафтапрадукты па САМЫХ дарагіх у свеце коштах. Даражэйшымі нафтапрадукты былі толькі ў Югаславіі ў 1999 годзе падчас бамбардовак яе тэрыторыі войскамі NATO.**

Нагадаем, што з 4 студзеня ў Беларусі на запраўках «Белнафтахім» бензін падаражэў на 30 працэнтаў, а дызельнае паліва - на 40. Літр бензіну ў мінулыя выхадныя дні каштаваў:

маркі А-76 - 200 рублёў;
маркі Аі-92 - 280 рублёў;
маркі Аі-95 - 330 рублёў.

Дызельнае паліва (летняе-зімовае) за адзін літр - 190-193 рублёў.

Аднак ўсе гэтыя кошты - чыстая ўмоўнасць. У пераднія з 4-га па 23-е студзеня на запраўках «Белнафтахім» у пасёлку Панямунь ці, напрыклад, па вуліцы Дзяржынскага ў Гродне фактычна не было дызельнага паліва, бензіну маркі А-76. Бензін маркі Аі-92 калі і быў, дык часцяком толькі па картках. Некалькі дзён не было нават бензіну Аі-95. Усё гэта прымушала грамадзянаў Беларусі звяртацца на валютную запраўчанную станцыю па праспекце Касманаўтаў. Там жа былі вымушаныя (беларускімі нарматыўнымі актамі) запраўляцца і ўладальнікі транспартных сродкаў з небеларуска-расейскімі нумарнымі знакамі.

Кошт на нафтапрадукты на запраўчанай станцыі «Белнафтахім» па праспекце Касманаўтаў у Гродне альбо, напрыклад, на запраўчанай станцыі каля Іўя (133 км шашы Менск-Гродна) 6-7 студзеня былі крыху:

маркі А-76 - 0,615 даляра ЗША;
маркі Аі-92 - 0,861 даляра ЗША;
маркі Аі-95 - 1,015 даляра ЗША;
Дыз. паліва - 0,594 даляра ЗША.

Як бачым, цэны астранамічныя і болей чым на 70-110 працэнтаў перавышаюць кошты ў Германіі, ЗША, Літве і г.д. Не кажучы ўжо пра параўнанне з расейскімі цэнамі на нафтапрадукты.

Праўда, у мінулыя выхадныя кошты на аўтазапраўчанай станцыі па праспекце Касманаўтаў былі ніжэй за навагодне-каляднія:

маркі А-76 - 0,57 даляра ЗША;
маркі Аі-92 - 0,81 даляра ЗША;
маркі Аі-95 - 0,96 даляра ЗША;
Дыз. паліва - 0,552 даляра ЗША.

Тым не менш, яны ніяк не стасуюцца са шматлікімі поспехамі беларускай эканомікі. Асабліва «не ўпісваецца» Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб працягу тэрмінаў кампенсавання кошту нафтапрадуктаў, дадзеных у 1999 годзе ў выглядзе таварнага крэдыту калгасам, саўгасам, іншым сельскагаспадарчым прадпрыемствам, сялянскім, фермерскім гаспадаркам і вяртанне нафтапрадуктаў у дзяржаўны рэзерв» з вышэйўказанымі поспехамі. Да таго ж, не варта забывацца, што ўжо да пачатку сакавіка бягучага года будуць выдадзеныя нафтапрадукты на пасяўную. Пры гэтым на 10-15 працэнтаў болей, чым у мінулым 1999 годзе (гл. ПАГОНЮ ад 13 студзеня 2000 года).

Аналізуючы стан справаў з забяспечанасцю нафтапрадуктамі ў 1999 годзе на Беларусі, напрыканцы лютага належыць чакаць значных перабояў з бензінам, дызельным палівам. А ў красавіку давядзецца, відаць, усім запраўляцца на валютных запраўках, як і ў красавіку 1999 года (ажно да пачатку верасня 1999 года), мажліва, і да верасня 2000 года.

Так што назапашвайце даляры, спадары аўтааматары і аўтапрафесіяналы. Бо літр бензіну - даляр. Некаму лёгка лічыць, а некаму даволі цяжка жыць.

**Сяргей Міронаў**

# Сцвярджэнне аб шматвекавым адзінстве Беларусі і Расеі - міф!

**Працяг. Пачатак у NN3,4**

В вайне 1632-1634 гадоў Масковія спрабуе ўзяць рэванш за Смаленск, бярэ яго ў аблогу, захоплівае Полацк, Друю, Асвею ды іншыя беларускія гарады, але яе напаткала няўдача, і Палянаўскі мір пакідае межы ранейшымі. Тым не менш, напрыканцы XVI - у першай палове XVII ст. дамінуючая роля ва Усходняй Еўропе пераходзіць ад ВКЛ, а потым Рэчы Паспалітай да іх суперніка - Расеі, якая трымае лідарства ў гэтым рэгіёне да нашых дзён. Амаль два стагоддзі суіснавання дзвюх апошніх былі далёка не дружалюбнымі. Пры любым выпадку Расейскае царства, а потым імперыя дамагалася ліквідацыі Рэчы Пасталітай. Гэта супрацьстаянне закончылася напрыканцы XVIII стагоддзя зноў жа інтэрвенцыяй, толькі ўжо Расейскай імперыі ў Рэч Паспалітую.

Жудасным выпрабаваннем для нашага народа стала маскоўская агрэсія 1654-1667 гадоў. 13 гадоў сціраліся з твару зямлі беларускія гарады, крэпасці, замкі, палацы, вёскі разам з насельніцтвам. Каб нейтралізаваць ці схіліць на свой бок праваслаўных жыхароў Беларусі, царская прапаганда яшчэ напярэдадні вайны заклікала іх выступаць разам супраць «праклятых ляхов». У некаторых месцах яна мела пэўны поспех - жыхары шэрагу гарадоў сустрэлі маскоўскіх ратнікаў лаяльна, але такое здаралася толькі ў самым пачатку вайны. Цар загадаў сваім ваяводам бязлітасна караць тыя гарады, якія не паддаюцца яму адразу - у навучанне іншым. Крывавую расправу ўчыніў кіраўнік аблогі і штурма Мсціслаўля Трубецкі: «город Мстиславль взял и высек и выжег и побил в нём больше пяти на десяти тысеч» (15 тысяч чалавек). У гісторыю яна ўвайшла пад назвай «трубяцкой разні». Ацалелых «мсціслаўскіх недасекаў» прывялі да прысягі на вернасць цару; шмат іх пагналі ў няволю на ўсход. Асабліва ўпарта абараняліся летам-восенню 1654 года Віцебск, Дуброўна, Гомель, Смаленск, а Стары Быхаў на Дняпры так і застаўся непакораны. Калі дубровенцы, змогшыся, капітулявалі, іх усіх забралі ў няволю, горад спалілі і нават валы зрылі. За першыя паўгода вайны маскоўскія ваяводы захапілі на Беларусі 33 гарады ў басейне Дняпра і Дзвіны. Ніводзін горад Беларусі, акрамя Магілёва і Копысі, не падрыхтаваных да абароны, добраахвотна не здаўся ім.

На другі год вайны пад акупацыяй апынулася амаль уся тэрыторыя Беларусі (за выключэннем Палесся, раёнаў Берасцейшчыны і Панямоння). Попел ды вуголле пакідалі пасля сябе маскоўскія ратнікі. «Вокруг Слуцка велели мы все выжечь, а идучи дорогою до Слонима, села, и деревни, и хлеб, и сено по обе стороны жгли и людей побивали и разоряли совсем без остатку, а в Клецке в городе людей побили всех», - даносіў у Маскву ваявода Трубяцкі.

Акупаваныя беларускія землі ператварыліся ў правінцыю Маскоўскай дзяржавы. Улада ў іх перадавалася царскім ваяводам. Яны імкнуліся ўмацоўваць і пашыраць на Беларусі праваслаўную веру. Уніяцтва было забаронена, каталіцтва - абмежавана. Гвалтам і марадзёрствам займаліся царскія ваяўнікі: рабавалі, забіралі ў няволю ўсіх без разбору. Ашмянская шляхта жалілася, што яны «гумна молотят, местечка и села наезжаючи, людей мучат... животину, что сыщут, всю емлют» (забіраюць). Як сведчыць патрыярх Нікан, цар Аляксей Міхайлавіч планаваў вывесці з Беларусі і пасяліць у сваіх землях 300 тысяч палонных. Паляванне на людзей ды іх масавы вывад у царства набылі характар дзяржаўнай праграмы. Любы расейскі памешчык, прыехаўшы на Беларусь, за мізэрную плату - 3-5 рублёў за чалавека - мог купіць любую колькасць палонных. Спецыяльна вышуквалі рамеснікаў - іх пераманьвалі вялікім заробкам, або забіралі сілай. У выніку ваенных дзеянняў і гаспадарання чужога войска землі Беларусі былі ператвораны ў пустэчу. Праехаўшы ў 1655 годзе дарогамі беларускага Панямоння, каралеўскі сакратар С.Мядэкша адзначыў у сваім дзённіку, што там «трупаў па дарогах поўна, вёскі, мястэчкі, сядзібы папаленыя, беднай хаткі цяжка пабачыць цэлай».

Усё гэта выклікала шырокае народнае супраціўленне. Ужо з 1654 года на занятых беларускіх землях сталі ўтварацца сялянскія фармаванні самаабароны. Партызанскі рух найбольш актыўна разгортваўся на Смаленшчыне, Полаччыне, Магілёўшчыне. Вясной 1656 года антымаскоўскі рух ахапіў раёны Менска, Барысава, перакінуўся на Наваградчыну. Цар накіраваў на партызан спецыяльнае войска. Каб застрашыць астатніх, злоўленых сялян білі пугамі, вешалі, адразалі насы і вушы. У 1658 годзе, калі ў лясы масава пайшла беларуская шляхта, якая раней прысягала цару, народна-вызваленчы рух на Беларусі дасягнуў свайго апагею. Ідэя вызвалення ад тыраніі часова кансалідавала прадстаўнікоў розных саслоўяў - сялян, мяшчан, шляхты. Партызанскія фармаванні перайшлі да наступальных аперацый - вызвалілі Бешанковічы, Лукомль, Глыбокае, заблакавалі Віцебск. Імкненне вызваліцца ад акупацыйных уладаў, якое ў той час ахапіла, здавалася, амаль усе пласты грамадства, найбольш яскрава выявілася ў серыі антымаскоўскіх паўстанняў у беларускіх гарадах. У 1661 годзе жыхары Магілёва знішчылі двухтысячны расейскі гарнізон; самастойна ліквідавалі царскія залогі мяшчане Дзісны, Мсціслаўля, Себежа, Шклова, Гомеля, Старога Быхава; рыхтавалася паўстанне ў Полацку. Як адзначыў аўстрыйскі дыпламат А.Маерберг, які праязджаў тады праз тэрыторыю Беларусі, здзекі і гвалт маскавіцянаў так адвярнулі ад іх сэрцы гэтага народа, што ён «выгнаў іх са сваіх земляў з такой жа нянавісцю, з якім даверам іх калісьці прымаў».

Стан, у які была ўведзена Беларусь 13-гадовай вайной, інакш як катастрофай не назавеш. Ад рук захопнікаў, голаду, холаду, эпідэміяў загінула 53% яе насельніцтва. Загінуў кожны другі, а на ўсходзе - кожныя 80 чалавек з сотні. Ніводная з суседніх з Беларуссю краінаў ніколі не пераносіла такой дэмаграфічнай катастрофы. За мора пралітай крыві летапісцы назвалі тыя гады не вайной, а патопам. Сотні тысяч жыхароў Беларусі было вывезена ў Масковію, яны апынуліся і ў самых далёкіх астрогах Сібіры, і ў самой сталіцы - 10% ад усяго пасадскага насельніцтва Масквы ў 1670-ыя гады складалі выхадцы з беларускіх земляў. Гэта былі, галоўным чынам, высокакваліфікаваныя рамеснікі. Затое ў беларускіх гарадах рамесная вытворчасць была настолькі падарваная, што даваеннага ўзроўню яе развіцця больш ніколі ўжо не давялося дасягнуць. У глыбокім заняпадзе апынулася і сельская гаспадарка. Больш як палова (а на ўсходзе амаль цалкам) ворыўнай зямлі ляжала пусткай - не было каму апрацоўваць. Бязлюдныя вёскі ды сялянскія палі зарасталі хмызняком і лесам. Былі абрабаваны, разбураны гарады, спалены мястэчкі і вёскі. Паводле тагачасных крыніцаў, Ашмянскі павет «цалкам знішчаны непрыяцелем», «у нішто ператвораны і ў большай частцы спалены» Гарадзенскі, Ваўкавыскі «непрыяцелем столькі разоў руйнаваны і ў шматлікіх месцах выпалены», Слонімскі «непрыяцелем амаль дашчэнту спалены і зрабаваны». Засталіся ў Масковіі вывезеныя з Беларусі каштоўнасці, у тым ліку кнігі, царкоўныя ўпрыгожванні, званы, гарматы ды інш. У галоўнай бібліятэцы Расеі неяк давялося бачыць скарынаўскую кнігу з надпісам, што яна вывезена ў 1655 годзе з Гродна адным маскоўскім ратнікам. Між тым, на сённяшні дзень Беларусь не мае ніводнага арыгінала скарынаўскага выдання.

Гэта вайна быццам перайначыла ўсю Беларусь. Край добра развітай гаспадаркі ды рамеснай вытворчасці зусім запусцеў і стаў непрыкметнай ускраінай. Тагачасная дэструкцыя, выкліканая вайной, змяніла ўсё - ад матэрыяльных умоваў жыцця да сацыяльнай структуры насельніцтва, ад моўна-культурнай і канфесійнай сітуацыі да этнапсіхікі ды нацыянальнага генафонду наогул. Без уліку наступстваў той ваеннай катастрофы нельга растлумачыць шмат якія з'явы нашай далейшай гісторыі. Менавіта да тых падзеяў сягаюць сваімі вытокамі прычыны крызісу, у які на доўгі час трапіла беларуская культура. Цяжка сказаць, калі акрыяла Беларусь ад катастрофы, эканамічнага, дэмаграфічнага і культурнага рэгрэсу, у які яе ўвергла вайна, і ці акрыяла наогул. Гэтая вайна, якую больш справядліва называць маскоўска-беларускай, стала нашай першай нацыянальнай катастрофай.

А маскоўскі ўрад, які спустошыў і зруйнаваў наш багаты край, выбіў яго насельніцтва, назаўсёды пакінуў сабе палонных і нарабаваныя каштоўнасці, замацаваў свае поспехі «вечным» мірам 1686 года і паспяшаўся адкінуць гэтую гісторыю в нябыт: «Впредь тому всему быти забвенну и непамятну».

Вайна 1654-1667 гадоў развеяла ілюзіі аб выратавальнай місіі расейскага самадзяржаўя на Беларусі, разбурыла імідж цара-вызваліцеля, хаця русафільскія настроі сярод часткі праваслаўнага насельніцтва былі даволі моцнымі аж да часу падзелаў Рэчы Паспалітай. Па меншай меры нашчадкі Багдана Хмяльніцкага імкнуліся выправіць яго фатальны крок і вярнуць сваю радзіму - Украіну пад уладу Рэчы Паспалітай.

У 1686 годзе пад націскам расейскіх свецкіх і духоўных уладаў пад юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхата падпала Кіеўская мітраполія - арганізацыя праваслаўнай царквы на беларуска-украінскіх землях, сфармаваная яшчэ ў X стагоддзі, чым была парушана 600-гадовая традыцыя яе падпарадкавання Канстанцінопальскаму патрыярху. Маскоўская прысутнасць на Беларусі ў якасці абаронцы праваслаўя з таго часу стала трывалым фактарам рэлігійна-палітычнага жыцця Беларусі, што падрывала суверэнітэт Рэчы Паспалітай.

Царызм ініцыяваў мясцовае праваслаўнае насельніцтва на пошукі пратэкцыі ў Маскве і Пецярбургу, выкарыстоўваючы гэта для ўмацавання залежнасці Рэчы Паспалітай, а пазней і ў падрыхтоўцы яе падзелаў. Ф.Энгельс заўважыў у сувязі з гэтым, што факты прымусовага далучэння насельніцтва Беларусі і Украіны да каталіцтва давалі «вялікарускім царам жаданую зачэпку для прэтэнзіяў на тэрыторыю былога Літоўскага княства, як на нацыянальную рускую вобласць, прыгнечаную, аднак, Польшчай». Факт падпарадкавання праваслаўнай царквы Маскве змяніў адносіны беларуска-украінскага грамадства да царкоўнай уніі, у якой убачылі аснову незалежнасці ад Расеі.

У час Паўночнай вайны 1700-1721 гадоў паміж Расеяй і Швецыяй кіраўнік Рэчы Паспалітай Аўгуст II у сваіх дынастычных інтарэсах выступіў саюзнікам расейскага імператара Пятра I, які паслаў на Беларусь сваё 70-тысячнае войска. Частка ж беларускіх магнатаў незалежніцкага кірунку на чале з Сапегамі падтрымала шведскага караля Карла XII і дапамагала яму войскам і грашыма. Ад расейцаў, якія паводзілі сябе на нашай зямлі не як саюзнікі, а як сапраўдныя захопнікі, Беларусь зазнала тады гора не меней, чым ад шведаў.

Пётр першым з ваенных «геніяў» выкарыстаў тут тактыку выпаленай зямлі перад наступаючым непрыяцелем. Каб пазбавіць шведаў правіянту і фуражу, расейскае войска выпальвала беларускія вёскі і рабавала гарады. Магілёў, які лічыўся адным з найпрыгажэйшых гарадоў Еўропы, быў зрабаваны і выпалены дашчэнту. Спалены Віцебск. Знішчаны замак у Смалянах пад Оршай, руіны якога і сёння нагадваюць нам пра тое злачынства. У Менску царская кавалерыя абчысціла уніяцкія і праваслаўныя манастыры і храмы. Менскае праваслаўнае брацтва заклікала месцічаў да зброі, і на Нямізе нашы продкі далі адпор рабаўнікам. Страшную памяць пакінуў пра сябе і сам цар, учыніўшы ў 1705 годзе крывавае злачынства, прычым не дзе-небудзь, а ў святым для кожнага беларуса месцы - Сафійскім саборы. Былі закатаваныя і забітыя пяцёра уніяцкіх святароў. Гэта забойства ўскалыхнула міжнародную грамадскасць і папсавала імідж цара-таleранта ў Еўропе. Найстаражытнейшы беларускі храм святой Сафіі Пётр зрабіў парахавым сховішчам. У 1710 годзе, напярэдадні выводу расейскага войска з гораду, порах узарвалі, і сабор ператварыўся ў руіны. Падзеі Паўночнай вайны, гаспадаранне на нашай зямлі расейскага войска, звязаныя з гэтым эпідэміі і голад сталі сапраўдным няшчасцем для Беларусі. За тыя гады беларускі народ паменшаў амаль на траціну - блізу на 800 тысяч чалавек. Гэтая вайна і расейскі цар не прынеслі Беларусі нічога, апрача крыві, пажараў і разбурэнняў.

Але і пасля вываду саюзнага войска з Беларусі ў шэрагу гарадоў (Полацк, Быхаў ды інш.) былі размешчаны расейскія гарнізоны. У Расею вывозіліся рамеснікі і моладзь. Царскі вяльможа А.Меншыкаў ад свайго імя раздаваў пасады і маёнткі прыхільнікам Пятра I.

Расея пасля атрымання перамогі ў Паўночнай вайне ўстанавіла свой палітычны кантроль над ВКЛ і Рэччу Паспалітай, якія ўсё болей адчуваюць цяжар жалезнай рукі суседняга манарха. Дзяржава ўсё болей губляе свой суверэнітэт і трапляе ў залежнасць ад Расеі, якая пачала разглядаць Рэч Паспалітую як сваю вотчыну. Зацікаўленая ў захаванні без зменаў стану знясіленай войнамі і магнацкімі сваркамі краіны, яна разам з Прусіяй з дапамогай дыпламатычных сродкаў, а часцей - непрыкрытага ўзброенага націску праводзіць тут зручную для сябе палітыку. Расея ўмешваецца ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай пад прыкрыццём абароны правоў праваслаўных, якія складалі тады абсалютную меншасць насельніцтва - усяго 6,5% ад агульнай яго колькасці. Далейшыя падзеі паказалі, што вырашэнне пытання іншаверцаў у Рэчы Паспалітай хвалююць яе суседзяў менш, чым магчымасці павялічыць свае тэрыторыі за кошт аслабленай польска-літвінскай дзяржавы.

**Эмілія Плятэр,**
**кандыдат гісторыі**

**Працяг будзе**



**Спусташэнне беларускіх земляў падчас вайны 1654-1667 г.г.**



**Расправа Пятра I з базыльянамі ў полацкім Сафійскім саборы**





ПЯРЭСТЫ КУТ

# Заакіянская традыцыя ў горадзе над Нёманам

**Першы ў гісторыі матч усіх зорак Усходне-Эўрапэйскай Хакейнай Лігі сабраў на трыбунах гарадзенскага Лёдавага палацу аншлаг.**

Склад дружыны беларускіх клюбаў фармаваўся паводле дастаткова простага прынцыпу - ад кожнага з чатырох клюбаў - па пяцёрцы гульцоў. Стартавы квінтэт быў сфармаваны з хакеістаў «Цівалі». Каманда суперніка па іменнай «яркасьці» выглядала выразьней - яе склалі хакеісты кіеўскіх «Сокала» і «Беркута», а таксама ліепайскага «Мэталюргсу». Сярод іх значыліся некалькі гульцоў «нацыяналак» Латвіі ды Украіны.

Адкрыў матч гімн... БССР. Напэўна, пара б ужо аб'явіць конкурс на адмысловы марш УЭХЛ, паколькі іншая атрыбутыка лігі ў наяўнасьці ўжо маецца.

Сымбалічнае ўкідванне зрабіў Леў Кантаровіч, нязьменны прэзыдэнт лігі ад пачатку заснаваньня. А Міхаіл Захараў, які зьявіўся першасным ініцыятарам шоу, атрымаў віншаваньне зь днём народзінаў.

Намінальныя госьці адкрылі лік (адмысловы прыз за першую шайбу атрымаў «беркутавец» Сяргей Зайцаў) і ўвесь час былі наперадзе. Беларусы ўвесь час даганялі, але так і не дагналі. Урэшце - 6:5 на карысьць зборнай «астатняга сьвету». Героем сустрэчы стаў колішні абаронец нёманцаў (а зараз - «мэталюрг») Дзьмітры Нічыухін. На яго рахунку дзьве закінутыя шайбы, у тым ліку вырашальная. Пасьля двух пэрыядаў на табло гарэла 5:5, а заключная траціна была адзначана толькі адным голам. Нічыухін быў угаранаваны як лепшы снайпэр. Мацнейшым галкіперам быў намінаваны Аляксандар Васільеў, які найбольш пасьпяхова адбіваў буліты (іх сэрыі выконваліся ў перапынках і завяршыліся таксама на карысьць украінцаў-латвійцаў). Хаця ня меншай адзнакі заслугоўваў яшчэ адзін кіеўскі брамнік - Яўген Бруль, які «адстаяў» роўна палову гульні й застаўся «сухім». Ну а найбольшае прызнаньне атрымалі паліміраўцы. Форвард Андрэй Мароз быў адзначаны як самы малады удзельнік матчу ўсіх зорак. А яго партнёр Аляксей Круцікаў быў названы мацнейшым гульцом сустрэчы.

**Хельмут Каменскі**



**По гарызанталі:** 7. Беларускі пісьменнік. 8. Трапны адказ без папярэдняга абдумвання. 10. І конская, і львіная. 11. «Жураўлі на... ляцяць» (песня). 12. Род пячэння. 14. Паўвостраў у Цэнтральнай Амерыцы. 16. Страва, прыгатаваная з кішак, рубца . 17. Што ў малататарні над барабанам? 19. Горны ланцуг. 20. Смеласць, рашучасць. 24. Абмоўка. 25. Імі закілзваюць каня. 26. Старажытная булава. 30. Навучанне, адукацыя. 31. Стан для красён. 32. Сталіца еўрапейскай дзяржавы. 33. Атрутная, лекавая і меданосная расліна. 34. Беларускі пісьменнік.

**Па вертыкалі:** 1. Падвода для перавозкі грузаў. 2. Верхні слой бярозавай кары. 3. Паміж корпусам і петлям. 4. Зярністая альбо паюсная. 5. Цішыня (сінонім). 6. Горад у Вінніцкай вобласці. 9. Агародніная расліна. 13. Урон, страта. 15. Прадмет кухоннага ўжытку. 17. Іначай - ёрш. 18. Зборнік вершаў Рыгора Барадуліна. 21. Возера ў Беларусі і Літве. 22. Раённы цэнтр у Гомельскай вобласці. 23. Знахар. 27. Жонка аднаго брата ў дачыненні да жонкі другога. 28. Пастухова вока. 29. Агульнапрынятая парадак. 32. Тлушч з раслiннага насення.

**Адказы на галаваломку, змешчаную ў N3(450):**
1. Басэтля. 2. Таптуха. 3. Прасніца. 4. Валакуша. 5. Магерка. 6. Жорны. 7. Калаўрот. 8. Куфар. 9. Паліца. 10. Дзяжа.

# Калі ты лідар, то гэта надоўга

**У апошняй гульні першага этапу першынства Рэспублікі Беларусь па баскетболу сустрэліся безумоўны лідар «Гродна-93» і стабільны «серадзнячок» «РТІ АЗАА». Сенсацыі не адбылося: гарадзенцы перамаглі з лікам 100:49.**

На пачатку матча гульня была амаль роўная. Першымі кінуліся ў адрыў баскетбалісты «Гродна-93». Стварыўшы шасціачковы запас, яны расслабіліся і страцілі ініцыятыву. Але адразу пасля першага таймаута, гарадзенцы выраўнялі гульню, а потым узялі рэй у свае рукі. За хвіліну да заканчэння першай паловы матча «Гродна-93» вяло ў ліку 10 ачкоў (38:28). А канчатковы вынік пасля першага тайму 44:29 на карысць гаспадароў. Аднак гульню «Гродна-93» напрыканцы першага тайму нельга назваць бездакорнай, бо гарадзенская каманда атрымала ажно 8 камандных фалоў (столькі ж і ў «РТІ АЗАА»). Пасля першай паловы матча лепшым баскетбалістам у каманде гасцей быў Г.Кандрусевіч (N13), на яго рахунку было 9 ачкоў, а ў гаспадароў - А.Квашчук (N7), на яго рахунку 21 ачко.

У другім тайме сітуацыя не змянілася, і да сёмай хвіліны нашыя землякі ўжо вялі 60:38. На дзевятай хвіліне адбыўся прыкры інцыдэнт з удзелам баскетбаліста гарадзенскай каманды П.Крышчыка (N12): як яму падалося, суддзя «свіснуў не ў тэму», і Пётр кінуў мяч у спіну «крыўдзіцеля», за што атрымаў тэхнічны фол. За 8 хвілін да заканчэння гульні за 5 фалоў быў выдалены з пляцоўкі баскетбаліст каманды гасцей П.Ульянаў (N10). У гэты дзень, схапіўшы за хвост «сінюю птушку», гарадзенскія баскетбалісты вырашылі «не выпусціць працўніка з пяцідзесяці ачкоў, а самім разгуляцца на ўсе сто». Гэта ім удалося: канчатковы лік 100:49. Лепшым у гульні быў гарадзенец А.Квашчук (28 ачкоў), а ў «РТІ ОЗАА» - Г.Кандрусевіч (17 ачкоў).

**Юрый Кузняцоў**

# Ці шчаслівыя Вы ў шлюбе?

| Пытанні да мужа: | Часам | Не | Так |
|---|---|---|---|
| 1. Ці ёсць у Вас жаданне змяніць лад жыцця і пачаць усё з пачатку? | 10 | 5 | 2 |
| 2. Вы лічыце, што Ваша жонка апранаецца без дастатковага густу? | 8 | 2 | 4 |
| 3. Ці кепска Вы спіце? | 6 | 2 | 3 |
| 4. Вы любіце бавіць вольны ад працы час не дома? | 2 | 5 | 10 |
| 5. Ці ведаеце Вы, якія кветкі, кнігі падабаюцца Вашай жонцы? | 4 | 9 | 10 |
| 6. Вы часта ўзгадваеце пра сваё халасцяцкае жыццё? | 9 | 7 | 2 |
| 7. Ці лічыце Вы, што самі (як і Ваша жонка) павінны вырашаць, якім чынам бавіць вольны час? | 7 | 5 | 4 |
| 8. Вы параўноўваеце сваю жонку з іншымі жанчынамі? | 9 | 2 | 1 |
| 9. Да Вас дахаты часта завітваюць Вашы сябры? | 8 | 2 | 3 |
| 10. Ці часта Вы крочыце дамоў з працы у дрэнным настроі? | 7 | 3 | 5 |

## Вынікі

Падлічыце, колькі ачкоў у суме Вы атрымалі.

**75 і больш ачкоў.** Вы не асабліва шчаслівы ў сямейным жыцці. Часткова ў гэтым і Ваша віна. Паспрабуйце больш уважліва ставіцца да сваёй жонкі. Калі, канешне, яшчэ не позна. Хаця, магчыма, гэта рэакцыя ў адказ. У любым выпадку і Вам, і жонцы варта падумаць, як зрабіць сямейнае жыццё больш стабільным, шчаслівым.

**Ад 40 да 74 ачкоў.** Вы задаволены сваім шлюбам. Вам падабаецца спакойная і прыемная атмасфера дома. Калі-нікалі сустракаецеся са сваімі сябрамі, прыгадваеце мінулыя дзянькі. Але гэта толькі прыемныя ўспаміны, якія зусім не выкліканы Вашай незадаволенасцю сямейным жыццём.

**39 і менш ачкоў.** Здараецца, што ў Вас з жонкай узнікаюць нейкія непаразуменні. Але ў цэлым Ваш шлюб удалы. Па ўсім відаць, што Вы амаль усім задаволены і шчаслівы.



P.S. Параўнайце Вашы вынікі з тымі, што атрымаліся ў жонкі (тэст «Ці шчаслівы Ваш шлюб?» у ПАГОНІ N 1) і зрабіце высновы.

**Падрыхтавала Лапа**

# Японскі змей пад дахам Гарадзенскага замку

**З 25 студзеня па 10 лютага ў Новым замку праходзіць выстава японскіх паветраных змеяў і ваўчкоў. Яе арганізатарамі выступілі Японскі фонд, амбасада Японіі ў Рэспубліцы Беларусь. Гародня-другі горад,дзе праводзіцца гэтая выстава. Напярэдадні на творы японскіх майстроў мелі магчымасць падзівіцца менчукі.**

- Існуе павер'е, што пабачыць высока ў небе паветранага змея - добры знак. Я спадзяюся , што гэтая выстава стане добрым знакам у развіцці адносінаў паміж Беларуссю і Японіяй, - адзначыў на ўступным слове намеснік начальніка ўпраўлення культуры Гарадзенскага аблвыканкама Анатоль Цярапін.

З японскага боку слова мела аташэ па культуры амбасады Японіі ў Беларусі Ямамота Ясукэ. Яна выказала падзяку за арганізацыю выставы ў Гародні дырэктару музея Алене Салаёвай і Анатолю Цярапіну. Прыемна здзівіла і выклікала апладысменты прысутных беларуская мова з вуснаў японскай прадстаўніцы. На жаль, еўныя «шаноўнае спадарства» ды «дзякуй» былі адзінымі беларускімі словамі , што прагучалі ў афіцыйнай частцы.

У старажытнасці паветраныя змеі былі абавязковай часткай рэлігійных цырымоніяў і свяцочных урачыстасцяў. У сучаснай Японіі паветраны змей набыў больш практычнае значэнне. З дапамогай гэтага цуда чалавечых рук сёння рамантуюць шматпавярховыя гмахі, а японскія фірмы распісваюць змеяў сваёй рэкламай.

На выставе можна ўбачыць некалькі дзесяткаў канструкцыяў паветраных змеяў і каля сотні разнастайных ваўчкоў. Уваходзіш у залу і разумееш, што знаходзішся ў самым сэрцы нейкага маляўнічага японскага дзейства. Уражанне, якое аваладвае тымі, хто разглядае экспанаты арыгінальнага японскага мастацтва, выдатна выказаў дацэнт Гарадзенскага універсітэта спадар Грынкевіч: «Гармонія колеру, формы і зместу, зварот да вытокаў нацыянальнай культуры...»

**Алеся Сідлярэвіч**



Японскі паветраны змей - сапраўдны твор мастацтва




**Баран (21.03-20.04).** Можаце разлічваць на поспех, калі возьмеце адказнасць у справах на сябе. Паездка абяцае быць удалай.

**Бык (21.04-20.05).** Будзьце вельмі ўважлівым(-ай) пры здзяйсненні фінансавых аперацыяў, асабліва калі грошы чужыя. Дапамогі чакайце з боку Стральцоў.

**Блізняты (21.05-21.06).** На некаторы час Вы апынецеся на другім плане - супернікі і канкурэнты будуць надзвычай прадпрымальныя і актыўнымі. Крыху цярпення - і Вам пашанцуе!

**Рак (22.06-22.07).** Маючая адбыцца паездка запатрабуе дадатковых выдаткаў. Паберажыце свае нервы - пазбягайце канфліктных сітуацыяў на працы (асабліва з Казярогамі).

**Леў (23.07-23.08).** Калі Вы не прагнеце сямейных праблемаў, паспрабуйце падтрымліваць дома прыязную атмасферу. Болей часу праводзьце са сваякамі.

**Панна (24.08-23.09).** Вам належыць быць цярплівым (-ай) і стрыманым(-ай), бо ў выхадныя дні могуць нечакана наваліцца непрыемнасці. Але, як кажуць, няма ліха без дабра.

**Шалі (24.09-23.10).** Вы, нарэшце, знойдзеце выйсце са становішча, якое падавалася Вам амаль безвыходным. У пятніцу адчуеце сябе незвычайна шчаслівым чалавекам.

**Скарпіён (24.10-22.11).** Каб не давялося праліваць слёзы, будзьце філосафам і проста крыху пачакайце больш спрыяльных умоваў для вырашэння сардэчных справаў.

**Стралец (23.11-21.12).** Гэты тыдзень як нельга лепей прыдатны для прагулак па зімовым лесе. Зрабіце перапынак у працы, не папкодзіць добра адпачыць.

**Казярог (22.12-20.01).** Асноўную ўвагу надайце самаадукацыі. Мажлівыя новыя дзелавыя кантакты, якія ў далейшым могуць стацца карыснымі.

**Вадалей (21.01-19.02).** Поўны эмацыйны камфорт і святочны настрой будуць панаваць на працягу ўсяго тыдня, які прынясе Вам шмат прыемных сюрпрызаў і задавальнення. Вось бы апынуцца на ўтульным прыморскім курорце з каханым чалавекам!..

**Рыбы (20.02-20.03).** Нечакана для сябе ўдала вырашыце складаную праблему. Новыя раманы і захапленні могуць пагоршыць Ваш душэўны спакой.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 262 Наклад 8 367
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 26.01.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць пагляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Бурдзюк Аксана, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей